Цана нумару

№ 5 (29) Аўторак, 30 красавіка. 1929 г., м. Вільня.

# ГРАМАДЗЯНІН

ПЭРЫЯДЫЧНЫ ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

Рэдакцыя і Адміністрацыя: WILNO, Zawalna 6—5. Тэлефон 14—35.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА. За 3 месяцы. . . . 2 зл. I нумар . . . . . . 20 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ

## ХРЫСТОС УВАСКРЭС!!!

**Усіх паважаных падпісчыкаў і чытачоў „ГРАМАДЗЯНІНА“ Рэдакцыя і Адміністрацыя віншуе са сьвятам Вялікадня.**

## Палітычна-гаспадарчая сытуацыя.

Палітычная сытуацыя дзяржавы заўсёды цесна зьвязана з гаспадарчаю. Гэтым і тлумачыцца цэлы шэраг зьмен, якія наступілі ў апошні час у нашым палітычным жыцьці. На першы плян выступае рэканструкцыя ці асабістая зьмена ў складзе ўраду.

Урад маршалка Пілсудзкага пасьля маёвага перавароту высунуў вядомы усім лёзунг спыненьня партыйнае барацьбы, маральнае санацыі і выпярадкаў у працы. І ў першыя два гады істнаваньня пасьлямаёвых урадаў прыметна была значная паправа у-ва ўсіх галінах гаспадарчага жыцьця. Курс злотага быў устабілізаваны, дзяржаўны бюджэт зраўнаважаны, прыватныя уклады ў касах ашчаднасьці і банках пачалі узрастаць, запас заграпічнае і залатой валюты у Польскім Банку гэтак сама пачаў расьці. Дзякуючы гэтаму быў паніжаны процант банкавых пазык, якія лягчэй можна было атрымаць як земляробу, гэтак і гандляру ці прамыслоўцу. Наагул, у гаспадарчым жыцьці краю наступіла пэўнае успакаеньне, дзеля чаго нат палітычныя ворагі „санацыі“ не маглі зрабіць ні ў чым закіду ураду маршалка Пілсудзкага, які вёў незалежную палітыку, ня лічачыся з апініяй Сойму і Сэнату.

Але прыблізна з пачатку ўжо мінулага году гаспадарчая сытуацыя дзяржавы пад уплывам розных чыннікаў пачала прыметна гаршэць. У гэтым доля адказнасьці падае і на урад, які вельмі панадзеіўся на свае уласныя сілы і здольнасьці, адпіхнуўшы супрацоўніцтва Сойму і грамадзянства. Наагул, прыватная ініцыятыва у гаспадарчым жыцьці пачала ігнаравацца. У той час пачала шырока праводзіцца сыстэма гэтак званага этатызму, ці дзяржаўнае прамысловасьці і гандлёвых прадпрыемстваў узамен прыватных. Гэта пацягнула за сабою ў першаю чаргу пагоршаньне стану прывознае прамысловасьці і гандлю.

Затым неўраджай прошлага году, а затым халодная і доўгая зіма і розныя

іншыя стыхійныя няшчасьці яшчэ больш пагоршылі гаспадарчую сытуацыю. Набыўчая ці пакупная здольнасьць унутранага спажыўца розных артыкулаў краёвай прамысловасьці значна зьменшылася. Наступіў цяжкі крызыс у гандлі і прамысловасьці. Дзякуючы няпэўнасьці агульна-гаспадарчае сытуацыі частка прыватных грашовых укладаў з краёвых банкаў была перанесена да Гданску, куды гэткім парадкам было вывязена каля 700 міл. зл. А затым сталы пасыўны балянс заграцічнага гандлю, гэта значыць перавага увозу над вывазам, якая кожны месяц у працягу ужо больш як году дасягае лічбы 70—80 міл. зл., выпампаваў за граніцу больш як 1,700 міл. заграцічнае валюты, пакрыўдзіўшы унутраны грашовы рынак. А дзеля таго, што ня было новага прытоку грошай з заграніцы ў відзе пазык, у краю пачаў адчувацца грашовы голад, шкадліва адбіваючыся на усіх галінах гаспадарчага жыцьця, пачаліся масавыя пратэсты вэксалёў, банкруцтвы гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў, застой у гандлі, у прывозным будаўніцтве, узрост безрабоцьця і г. д.

Гэткі стан рэчаў змусіў Сойм выступіць больш рашуча ў адносінах ураду, якому ён не перашкаджаў у працы ў працягу амаль трох гадоў. І вось на бюджэтнай сэсіі, якая нядаўна закончылася, Сойм усімі галасамі за выняткам 130 галасоў Б.Б., значна скрэсьліў у бюджэце некаторыя пазыцыі выдаткаў, як напрыклад дыспазыцыйны фонд ваеннага міністра і ухваліў пацягнуць да судовае адказнасьці перад Дзяржаўным Трыбуналам міністра скарбу Чэховіча за тое, што ён ня ўнёс да Сойму разрахунку на 460 мільёнаў зл., якія былі выдаткаваны ў 1926—27 г. па за бюджэтнымі асыгнаваньнямі. І хаця кабінэт Бартэля вынес пастанову, што ён у цэласьці салідарызуецца з міністрам скарбу, аднак-жа апошні катэгарычна рашыў падацца ў дымісію.

З прыняцьцем прэм'ерам гэтай дымісыі распачаўся першы крызыс пасьлямаевага ураду, які цягнуўся больш 30 дзён, і адкрытая барацьба ураду з Соймам. Да гэтае барацьбы падліў масла марш. Пілсудзкі спачатку сваёй прамовай у Сэнаце, а затым, ужо пасьля закрыцьця Сойму, артыкулам у прэсе, у якіх у рэзкіх і абражлівых выразах выступіў проці Сойму.

Дзеля таго, што Сойм пасьля прыняцьця бюджэту быў неадкладна распушчаны на вакацыі, з атказам на гэтыя выступленьні марш. Пілсудзкага, але не беспасрэдна па яго адрэсу, а скарыстаўшыся газэтным артыкулам ушоўшага у дымісію прэм'ера Бартэля, выступіў маршалак Сойму Дашынскі з вельмі вострым артыкулам у прэсе. Выступленьне гэтае марш. Дашынскага ў абароне гонару Сойму, як народнага прадстаўніцтва, зрабіла на публічную апінію вельмі моцнае уражаньне, тым балей, што Дашынскі да нядаўняга часу лічыўся асабістым прыяцелям марш. Пілсудзкага і належыць да партыі П.П.С., якая, як ведама, прымала чынны удзел у маёвым пераварoце і да апошняга часу падтрымлівала урад марш. Пілсудзкага.

Пасьля уходу прэм'ера Бартэля і міністра скарбу Чэховіча быў створаны новы кабінэт, на чале якога стаў былы міністар асьветы Сьвітальскі. Да новага кабінэту увайшоў на пасаду міністра скарбу палкоўнік Матушэўскі, але толькі як кіраўнік міністэрствам скарбу, пры якім будзе створана спэцыяльная скарбовая рада, і наступілі зьмены на пасадах міністраў працы, пошты, тэлеграфу і асьветы. Гэты абноўлены кабінэт, як і папярэдні, будзе знаходзіцца пад асабістым уплывам марш. Пілсудзкага. І хаця прэм'ер Сьвітальскі заявіў прадстаўнікам прэсы, што палітыка новага ураду нічым ня будзе розьніцца ад палітыкі папярэдняга ураду аднак-жа у адносінах хаця-бы гаспадарчае палітыкі ён павінен будзе зьмяніць папярэдні кірунак дзеля таго, што ён давёў у апошні час да пэўнага крызысу і абвастрэньня палітычнае сытуацыі. Бо зьмена ураду пад цяжарам гаспадарчага крызысу зьяўляецца у пэўнай меры доказам таго ўнутранага крызысу, які перажывае ў апошні час пасьлямаёвая „санацыя" ня выканаўшая галоўных лёзунгаў марш. Пілсудзкага— спыненьня партыйнае барацьбы і гаспадарчага аздараўленьня Дзяржавы.

# Палітычная хроніка

## ПОЛЬШЧА.

### НОВЫ КАБІНЭТ Д-ра СЬВІТАЛЬСКАГА.

14 красавіка быў створаны новы кабінэт Сьвітальскага у наступным складзе.

Прэм'ер—Казімер Сьвітальскі, б. міністар асьветы.

Міністар унутраных справаў—гэн. Славой-Складкоўскі.

Міністар загранічных справаў — Аугуст Залескі.

Ваенны міністар—маршалак Пілсудзкі.

Міністар справядлівасьці—Ст. Цар.

Міністар асьветы і рэлігійных справаў—Славамір Чэрвінскі (новы).

Мін. ральніцтва—Карл Незабытоўскі.

Мін. прамысловасьці і гандлю—інж. Э. Кваткоўскі.

Міністар жал. дарог—інж. А. Клюн.

Мін. публічных работ—Морачэўскі.

Мін. працы і публічнае апекі — палк. Прыстар (новы).

Мін. зямельных рэформаў — др. В. Станевіч.

Мін. пошты і тэлеграфу—інж. І. Бэрнэр (новы).

Кіраўнік мін. скарбу—палк. І. Матушэўскі (новы).

## ЗАГРАНІЦАЮ.

### РЭПАРАЦЫЙНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ у ПАРЫЖЫ.

У Парыжы ужо каля 3-х месяцаў цягнецца канфэрэнцыя экспэртаў па пытаньні аб нямецкіх плацяжох пераможцам контрыбуцыі (рэпарацыі). Пасьля аканчаньня вайны пераможцы налажылі гэткую контрыбуцыю, што 4 нямецкіх пакаленьні не маглі-б яе сплаціць. Пасьля некалькіх гадоў немцы за явілі, што больш ня могуць плаціць такім вялікімі ратамі. Тады амэрыканскі прадстаўнік Даус выпрацаваў плян, паводле якога немцы павінны былі плаціць прыблізна па два з паловаю мільярдаў нямецкіх марак (больш 5 мільярдаў злотых) у год.

Пасьля некалькіх гадоў сумленнай уплаты немцы зноў пачалі жаліцца, што ня могуць так шмат плаціць. І зноў сабраліся у Парыжы экспэрты галоўных ваяваўшых дзяржаваў, якія выпрацавалі наступны плян уплаты немцамі контрыбуцыі. У працягу 37 гадоў павінны плаціць ад 1,700 да 2,600 мільёнаў марак на рахунак хаўрусных ваенных даўгоў Амэрыцы, а затым 21 год па 1,700 міл. хаўрусьнікам на адбудову зьнішчаных вайною краёў.

Нямецкі прадстаўнік, дырэктар нямецкага дзяржаўнага банку Шахт, адмовіўся прыняць гэты праэкт і запрапанаваў са свайго боку плаціць па 1,600 міл. марак у працягу 39 гадоў. Пры гэтым заявіў, што Нямеччына згодзіцца плаціць так толькі у тым выпадку, калі ёй будуць зьвернены былыя нямецкія калёніі і адыйшоўшыя па Вэрсальскаму трактату да Польшчы В. Шлёнск, Пазнань і Гданскі калідор. Гэта заяўленьне выклікала як сярод дэлегатаў канфэрэнцыі, гэтак і публічнае апініі Францыі і Польшчы

---

# Ня поўны Беларус.

Гэта здарылася пасьля „Грамады“ і пасьля выбараў у Сойм і Сэнат.

Язэп Налівайка, селянін аднэй з бліжэйшых да Вільні вёсак, раптам пачуў сябе беларусам.

І ня толькі пачуў беларусам сябе, але пачуў, што яго бацькі, дзяды і прадзеды былі беларусамі. Налівайка раптам пачуў, што гэтая вёска, дзе ён жыве, што суседнія вёскі, каторыя акружаюць яго вёску, што гэты край, дзе стаяць гэтыя вёскі, што гэтыя лясы, рэкі, зямля і сенажаці, што параскідаліся ў гэтым краю — усё беларускія. Пачуў нават, што гэтае неба, каторае расьцягнулася над усім беларускім — так-жа беларускае. Так, так, неба беларускае, бо яно ахварбована ў колер беларускіх кветак—васілёчкаў. Куды-б ні зірнуў вачыма, што-б ні пачуў вушыма—Налівайка ўсюды і ўва ўсім знаходзіў сваё, блізкае, роднае, мілае, беларускае.

Прабудзілася нацыянальная сьведамасьць, як гавораць беларускія дзеячы.

Але хоць Налівайка чуў сябе беларусам паміж усяго беларускага, усё-ж такі быў маркотны і нават сумны. Гэтую маркотнасьць і сум узбуджала думка, што ён ня поўны беларус. Ён думаў, што нечага ў ім не хапае, нечага не стае, каб адчувацца поўным беларусам так, як ён адчуваецца поўным гаспадаром на сваім невялікім надзеле.

Думаў, што нечага ў яго няма, а чаго,—дык і сам ён ня ведаў.

Налівайка пытаўся ў суседзяў, чаго ў ім не стае да поўнага беларуса, але тыя толькі пасьміхоўваліся і казалі:

— Трэба зрабіцца паслом, нятыкальным —дык і будзеш поўны беларус... Ніхто і нічога да цябе не даткнецца!

А Налівайку ад гэтага станавілася цяжэй і цяжэй на душы. Ён ужо хацеў-бы, каб не адчуваць беларуса ў сабе, хацеў-бы адмовіцца ад усяе беларускасьці, але няма як.

Як ня будзеш адчуваць беларускасьці, калі ён сам беларус і яго продкі былі беларусамі.

Як ня будзеш адчуваць беларускасьці калі яго вёска, калі гэты край, дзе яна стаіць, калі гэтае неба, што расьцягнулася над гэтым краем—беларускія.

Як-жа тут не адчуеш беларускасьці?

Як адмовішся ад беларускасьці, калі ўсе ведаюць, што ён беларус.

Суседзі ведаюць, што ён ненавідзіць паноў.

зразумелае абурэньне. Чым кончыцца канфэрэнцыя, пакуль невядома.

## ПЕРАД ВЫБАРАМІ у АНГЛІІ.

У канцы траўня ў Англіі адбудуцца выбары да парляманту. У Англіі, як ведама, ёсьць тры палітычныя партыі—кансэрватары, лібэралы і работніцкая, якая толькі каля 15 гадоў зьявілася на палітычнай арэне і з кожным годам павялічвае свае шэрагі. У 1922 г. работніцкая партыя здабыла на выбарах 190 мандатаў на агульны лік 615 і пры падтрыманьні лібэралаў трымалі уладу у сваіх руках. Але на выбарах у 1924 г. страцілі некалькі галасоў дзеля таго, што скампраматавалі сябе стасункамі з бальшавікамі. Дзякуючы гэтаму кансэрватысты атрымалі вялікую перамогу на выбарах і ў працягу 4 гадоў спакойна урадавалі. Цяпер зноў прадвяшчаюць перамогу работнікаў дзеля таго, што кансэрватары не маглі перамагчы гаспадарчы крызыс. Уся Эўропа вельмі зацікаўлена вынікамі гэтых выбараў, ад якіх будзе залежыць далейшы уклад і кірунак эўропэйскае палітыкі, бо, як ведама, ангельскія работнікі зьяўляюцца прыхільнікамі згоды з немцамі і савецкай Расеяй. Нядаўна прадстаўнік раб. партыі быўшы мін. скарбу у кабінэце Макданальда Споўдэн заявіў у парляманце, што калі работніцкая партыя дойдзе да улады, дык патрэбуе поўнага скасаваньня ваенных даўгоў.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ ПА ПЫТАНЬНІ АБ РАЗБРАЕНЬНІ.

У Жэнэве адкрылася 13 гэтага мес. падрыхтоўчая канфэрэнцыя па пытаньні аб агульным разбраеньні. У гэтай канфэрэнцыі прыймае удзел між іншым і савецкі прадстаўнік Літвінаў. Амаль ніхто ня верыць у пасьпех гэтай канфэрэнцыі, бо на'т тэорэтычна ня можна дайсьці да згоды па пытаньні аб зьмяншэньні узбраеньня, пад якім разумеецца ня толькі армія і аружжа, але фабрыкі, стан жалезных дарог, скарбу, патрыятызм і г. д.

## ДЭЛЕГАЦЫЯ АГЕЛЬСКІХ КАПІТАЛІСТАЎ у С.С.Р.Р.

Да Радавае Расеі выехала дэлегацыя ангельскіх капіталістаў і прамыслоўцаў у ліку 100 асоб. Яна прабыла там ужо цэлы месяц і мае сваёй мэтаю пазнаёміцца на мейсцы з гаспадарчым станам і варункамі узнаўленьня гандлёвых стасункаў з Радаваю Расеяй. Гэтая паездка выклікала вялікае зацікаўленьне у Францыі, Злучаных Штатах і Нямеччыне. Бальшавікі ставяць варункам узнаўленьня гандлёвых стасункаў прызнаньне іх Англіяй.

## ВЫБАРЫ ДА РАДАЎ у С.С.Р.Р

У Радавай Расеі адбыліся нядаўна выбары да вясковых і меставых радаў (саветаў). Ня гледзячы на тэрор, стасаваны камуністымі ў адносінах больш заможнага элемэнту і пазбаўленьня права голасу некаторых клясаў, як духавенства, быўшых урадоўцаў і г. д., камуністыя ў новых радах не дасягаюць больш, як 13—17 прац. Аднак-жа улада застаецца у руках камуністых.

---

Вучыцель ведае. што ён падаў дэклярацыю на беларускую школу.

Паліцыя ведае, што ён маракуе на сучасны лад і парадак.

Ксёндз ведае, што ён падпісаўся на беларускую мову ў касьцеле.

Войт ведае, што ён праклінае асаднікаў.

Пан ведае, што ён чакае прырэзкі зямлі з яго маёнтку.

Але-ж усе, але-ж усе ведаюць, што ён беларус.

Сам-жа ён, і яго жонка і яго дзеці гутараць пабеларуску.

Як-жа адмовішся ад беларускасьці?

Але Налівайка усё-ж такі думае, што яшчэ нечага ў ім не хапае да поўнага беларуса.

Пытаўся, пытаўся ў суседзяў, але нічога не дапытаўся, толькі на кпіны сябе выставіў.

— Вось — казалі — безгаловы беларус... Супакою няма!

Пачаў Налівайка пытацца ў людзей з суседніх вёсак, чаго ў ім не хапае да поўнага беларуса.

Адны, цяжка ўздыхаючы, казалі, што трэба быць адукаваным вышэйшаю асьветаю.

Другія, пасьміхоўваючыся, казалі, што трэба пасядзець у вастрозе за палітыку...

Трэція, зьдзіўлёна пазіраючы, казалі, што трэба мець веру у Беларусь.

Але кожны ў канцы свайго адказу дабаўляў:

— Мажа, тады-б ты і зразумеў, чаго ў цябе не хапае.

Здавальняючага-ж, поўнага адказу ніхто ня даў. Ніхто не сказаў, што, маўляў, „трэба тое, ці гэта зрабіць, гэта, або тое мець —дык і будзеш поўны беларус."

Аж нарэшце Налівайка спаткаў знаёмага панічыка, каторы ў часе выбараў у Сойм і Сэнат агітаваў за беларускіх пасолў.

Запытаўся ў яго:

— Чаго ў-ва мне не хапае да поўнага беларуса? Ужо і ўсё, здаецца, раблю, што кажуць, але думаю, што я ня поўны беларус.

— Каб стаць поўным беларусам, трэба належаць да якое-небудзь беларускай палітычнай партыі—сказаў панічык.

—А што гэта такое, тая партыя?—зьдзіўлёна запытаўся Налівайка.

— Партыя? Гэта гурт людзей, што вядзе барацьбу за лепшае жыцьцё для беларусаў.

Налівайка аж спалохаўся, як пачуў слова „барацьбу", але зараз-жа ахамянуўся і, падумаўшы, пытаў далей:

— А дзе-ж ён, гэты гурт?

# Тутэйшая хроніка

## АД РЭДАКЦЫІ „ГРАМАДЗЯНІНА".

Рэдакцыя паведамляе сваіх чытачоў, што дзеля адсутнасьці матэр'яльных сродкаў яна прымушана з наступнага нумару спыніць высылку газэты, як тутака, так і за граніцу, усім тым асобам і арганізацыям, якія атрымлівалі яе бясплатна. Газэта будзе высылацца бясплатна толькі сябром Т-ва „Прасьвета" і Самаўрадавага Камітэту і сваім сталым карэспандэнтам.

## НАШАЯ ПРЭСА у ВІЛЬНІ.

Газэты левага кірунку зусім спыніліся нешта ня чуваць, каб выходзілі далей. Гумарыстычную „Маланку" зьмяніў зусім няўдалы і слабы „Авадзень". Сялянскага кірунку „Народ"—пасла Янкі Станкевіча і „Сялянская Ніва" пасла Ярэміча, замерлі і выходзяць калі-некалі. І толькі орган хрысьціянскіх дэмакратаў „Беларуская Крыніца", здаецца, пасьля адозвы арцыбіскупа Ялбжыкоўскага ўзмацнеўся і пачаў акуратна і стала выходзіць штотыдзень. Акуратна выходзіць і „Хрысьціянская Думка"—кс. А. Станкевіча. З палёнафільскага кірунку „Беларускі Дзень", сыграўшы сваю прадвыбарчую ролю і збанкрутаваўшы, спыніўся, а рэдактар-выдавец Фр. Умястоўскі вярнуўся на папярэднюю сваю пасаду польскага урадоўца. „Беларускі Радны" дзеля адсутнасьці матэр'яльных сродкаў таксама замёр, замірае дзеля гэтае-ж прычыны і наш „Грамадзянін".

Як новую часопісь, трэба адцяміць „Шлях Моладзі" — месячнік, выдаваны і рэдагуемы групай моладзі, згуртаванай ля хр. дэмакратаў. Выйшаў ужо нумар 2 з багатым зьместам і прадаецца ўва ўсіх бел. кнігарнях. Падпіска на м-ц 35 гр., на паўгода 2 зл. і на год 4 зл. Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Людвісарская нумар 1 кв. 23.

Выходзяць, як і раней — „Студэнская Думка"—орган бел. студэнства, і „Саха", гаспадарчая часопісь.

## У ВІЛ. БЕЛ. НАЦ. КАМІТЭЦЕ.

Нарэшце Віл. Бел. Нац. Камітэт узяў пачын у грамадзкай працы і з'арганізаваў сьвяткаваньне незалежнасьці Беларусі, якое адбылося пры удзеле амаль-што не ўсяго Віл. Бел. Грамадзянства. Шкада, што для вучняў Віл. Бел. Гімназіі, з невядомых прычын, багаслужэньне адбывалася ня ў той царкве, дзе было прысутнымі ўсё грамадзянства.

## НАШЫЯ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

З „Тав. Бел. Школы" нешта нічога ня чуваць. „Санацыйная" неразьбяpыха у цэнтры і адсутнасьць левай прэсы, асьвятляўшай заўсёды справы т-ва Школы — пакінулі грамадзянства без малейшых інфармацыяў. Што робіць паўнамоцная камісія па зарганізаваньні зьезду і чаму, як пішуць польскія газэты, час ад часу зачыняюцца правінцыяльныя гурткі Т-ва—нічога ня ведама.

Ціха і з „Інстытутам Гаспадаркі і Культуры". Апрача перавыбараў у цэнтры, па-

---

— Усюды, дзе ёсьць беларусы—важна і гучна адказаў панічык.

— Чаму-ж я нідзе ня бачыў?

— А таму, што ты беспартыйны... Запішыся ў партыю, дык убачыш.

— Ага! — нешта зразумеўшы, сказаў Налівайка. — Дык, знача, трэба запісацца ў партыю для барацьбы?

— Але... Тады будзеш поўным беларусам... Трэба змагацца—з асаблівым націскам выгаварыў панічык апошнія словы.

— А дзе-ж гэта.,. запісацца?

— У сваім гуртку, або ў цэнтралі партыі. Найлепш у цэнтралі—падумаўшы дабавіў ён.

— А дзе-ж яна, цэнтраля, як ты кажаш?

— У Вільні... Але тамака шмат цэнтраляў і шмат партыяў, Дык трэба раней выбраць якую-небудзь партыю і тады запісацца ў яе цэнтралі—тлумачыў панічык.

— Шмат партыяў, кажаш? — зьдзіўлёна апытаўся Налівайка.

— Але. Беларуская Хрысьціянская Дэмократыя—раз! Сялянскі Саюз—два! Радыкальная Сялянская партыя—тры! Дэмократычнае Аб'яднаньнее праваслаўных беларусаў—чатыры! Беларуская Нацыянальная партыя—пяць!—лічыў панічык па пальцах аднэй рукі, і, прылажыўшы вялікі палец, сказаў:

— Гэта большыя, маюць цэнтралі. А колькі меншых!.. Так сама хапіла-бы на пяць пальцаў другой рукі, каб лічыць пачаў.

— А Божа-ж мой!—крыкнуў Налівайка —а навошта-ж гэтулькі партыяў, калі мы адны беларусы, ды, як я чуў з газэты, нас толькі 2 ці што мільёны!

— Дураны!—кажа панічык—чым больш гуртаў да барацьбы, тым лепш—больш сілы, знача!

— Ага!.. Дык ты кажаш, трэба запісацца ў партыю?

— Але.

— А ў якую-ж?

— Ну гэта тваё дзела. Найлепш у якую-небудзь сялянскую... Але на ўсякі выпадак вось табе адрасы ўсіх партыяў—і панічык, напісаўшы на картачцы адрасы, даў яе Налівайку,

— Вось-жа дзякую, вось дзякую—гаварыў Налівайка—а то я звар'яцеў-бы, думаючы, чаго ўва мне не хапае да поўнага беларуса... Вось-жа дзякую, панічык!

---

У Вільню Налівайка прыехаў з жонкаю.

Жонка асталася пільнаваць воза, а сам ён пайшоў у Сялянскі Саюз, запісацца ў партыю.

Тутака паніч з манішкаю, распытаўшы-

сьля выхаду старшыні А. Більдзюкевіча і перавыбараў ў Віленскім Гуртку — аб рэальнай працы нешта ня чуваць.

У Т-ве „Прасьвета“ ня лепш. Пасьля спыненьня цэнтрам падтрыманьня, хаця ніводзен гурток не раскідаўся, але рух замёр. Новыя гурткі не адчыняюцца, спэктаклі ставяцца раджэй і бібліотэкі не высылаюцца. Моладзь, заместа культурна-прасьветных разрывак, пачынае ўцягвацца ў карты і гарэлку.

Замоўк нешта зусім і „Гаспадарскі Зьвяз“—„спадара“ Я. Станкевіча.

## З БЕЛ. КООПЭРАТЫЎНАГА БАНКУ ў ВІЛЬНІ.

21 красавіка г. г. адбыўся чародны агульны сход сяброў Беларускага Коопэратыўнага Банку. Замест выбыўшых сяброў Нагляднае Рады гр. гр. А. Трэпкі, У. Лукашэвіча і К. Крука на іх месца выбраны: інж. А. Дыліс, М. Марцінчык і С. Татарын, а на кандыдатаў гр. гр. П. Пяткун, П. Кізявіч і Я. Саковіч.

У апошнія часы зпажылі дэклярацы і залічаны сябрамі Банку беларускія коопэратывы, 1) у Войстаме „Праца“, 2) у Сьвіслачы „Праца“, 3) у В.-Кракотцы „Добрабыт“, 4) у Шаркоўшчыне „Зорка“, 5) у Сімакаве „Сьвет“, 6) у М. Жухавічах „Змаганьне“, 7) у Луцэвічах „Новая Зара“.

## НАБАЖЭНСТВА і ЖАЛОБНАЯ АКАДЭМІЯ.

з прычыны 3-ціх угодкаў сьмерці бел. паэта Каз. Сваяка (кс. К. Стэповіча) ладзіцца сёлета ў родных старонах нябошчыка, ў Клюшчанах Сьвянцянскага пав. у панядзелак, дня 6 траўня (мая) с. г. ў такім парадку: а 9 гадз. рана ў мяйсцовым касьцеле—жалобнае набажэнства. Зараз пасьля касьцёла адбудзецца ў Людовым Доме (быўшы шпіталь) жалобная акадэмія.

## ВЫЕЗД КС. В. ШУТОВІЧА.

У мінулым тыдні ведамы змагар за справу беларускую кс. Віктар Шутовіч выехаў у Амэрыку. Ксёндз Шутовіч, як ведама, стаўся ахвярай нацыяналістычнай польскай палітыкі Віл. арцыб. Ялбжыкоўскага.

## УСЯПОЛЬСКАЯ ВЫСТАЎКА У ПАЗНАНІ.

Як ведама з польскіх газэтаў, усяпольская выстаўка ў Пазнані адчыніцца 16 мая 1929 г. Па тым падгатоўкам і ходаньням, якія вядуцца ўрадам даўно, трэба лічыць, што выстаўка сапраўды будзе цікавая і наглядна выявіць ўсё тое, што дасягнула Польшча за 10 год свайго адраджэньня ўва ўсіх галінах дзяржаўнасьці.

Увесь абшар выстаўкі займае 600 тысячаў квадратных мэтраў, ці 60 гэктараў і мае ўжо 111 будынкаў і павільёнаў. Адных уваходаў для публікі будзе аж 9.

Выставачны матэр'ял падзелены на 7 аддзелаў, а ласьне 1) аддзел ураду, дзе кожнае міністэрства паказвае, што ім зроблена і што дасягнута за 10 гадоў, 2) аддзел самаўрадавы, 3) земляробства, 4) промысел гандаль і рамёслы, 5) мастацтва, 6) фізычнае івыхаваньне, спорт і турыстыка, 7) эміграцыя, дзе будуць экспонаты польскіх эмігрантаў у галінах культурнагаспадарскіх з усяго сьвету

Падчас выстаўкі, апрача адведзін самай выстаўкі праз выцечкі свае і заграгічныя.

---

ся ў Налівайкі, хто ён, адкуль і чым займаецца, узяў нейкую картачку і кнігу, і пачаў запісываць,

Раптам Налівайка запытаўся:

— Скажэце, панічыку, а вашая партыя поўная сялянская, ці не?

— Поўная,—адказаў паніч, даючы яму маленькую кніжачку—вось нашая праграма.

— А што-ж у гэтай праграме?

— Усё: і незалежная Беларусь, і зямля сялянам, і прырэзка хутароў, і скасаваньне асадніцтва, і прасьвета ў роднай мове, і поўная свабода, і зьмяншэньне падаткаў, і фабрыкі работнікам, і абарона сялян і работнікаў—адным словам усё!—сказаў паніч.

— Ай-ей-ей, як добра!—дзівіўся Налівайка—але тутака, мусіць, яшчэ больш, як панічык казаў?—сказаў Налівайка, узяўшы кніжачку.

— Так, так, тутака больш. Я прачытаю вам, калі хочаце.

— Прачытайце, прачытайце, панічыку—зацікаўлена прасіў Налівайка.

Прчытаўшы ўсю праграму, панічык Сялянскага Саюзу запытаўся:

— Ну, што? Добрая партыя?

— Добрая—сказаў Налівайка, патрасаючы галавою... Але-ж у ёй толькі аб сялянах і работніках, аб мужчынах, значыцца гутарка, а аб жанчынах дык нічога й ня чуваць было

— Дык гэта ўсё роўна—сказаў панічык —тутака агулам аб сялянах, агулам аб работніках, ня гледзячы, ці то будзе мужчына, ці жанчыны,

— Яно то так—гаварыў Налівайка—але каб асобна было аб сялянках, асобна аб работніцах, дык было-б яшчэ лепш...

І падумаўшы дабавіў.

— Тады гэтая партыя была-бы поўнаю, а так нечага не хапае, якраз, як у мяне...

Панічык зірнуў на Налівайку нейкім асаблівым поглядам і запытаўся:

— І што-ж вы думаеце?

— Ня поўная партыя, ня варта запісвацца—сказаў Налівайка.—Выкасуйце, панічыку, тое, што напісалі...

Панічык Сялянскага Саюзу сьціснуў плячыма, а Налівайка, аддаўшы яму праграму, скіраваўся да дзьвярэй і сказаў:

— Добрая партыя, але ня поўная. Пайду шукаць другое, каб з жанчынамі, знача... Бывайце!

З Сялянскага Саюзу Налівайка пайшоў у Радыкальную Сялянскую Партыю.

Тутака так-сама панічык у манішцы гаварыў яму, што у іх партыі і так-сама ч таў праграму, ды яшчэ лепш, байчэй, але Налі-

адбудзецца яшчэ некалькі міжнародных кангрэсаў і зьездаў агульнай вагі.

. . . . . . . . . . . .

Каб даць магчымасьць большаму ліку грамадзян адведаць выстаўку, урадам дадзены льготы на праезд па чыгунцы, а Дырэкцыяй выстаўкі прыгатаваны льготныя памешканьні і таннае утрыманьне.

Усім сябром Т-ва „Прасьветы", якія зварочваліся да нас у справе выцечкі на выстаўку, можам сказаць, што захады у гэтым кірунку ўжо зроблены і просім усіх тых, хто ня мае магчымасьці ўвайсьці ў склад выцечак з польскімі арганізацыямі, хай загадзя і не пазьней 15 чэрвеня паведаміць Акружную Раду „Прасьветы". Вільня, Завальная 6 кв. 5. Падрабязна аб усім паведамім дадаткова:

## У ПРАЗЕ.

25 сакавіка 1929 г. дзень сьвяткаваньня 11-х угодкаў незалежнасьці Беларусі прайшоў зусім неспадзявана. Справа ў тым, што беларуская калёнія кожны год як-бы традыцыйна праводзіла гэты дзень у пэўны час на сходцы, на сьвяце незалежнасьці, таму у панядзелак ужо спатыкаючыся паміж сабою беларусы абменіваліся сьвяточнымі настроямі і пыталі адзін у аднаго, дзе будзе зборка сьвяткаваньня і г. д.

Адны казалі „знае Ільяшэвіч—гэты ведае", д.ругія „не, Грыб і Захарка", трэція гавораць, што ведае інж. Лаўскі і г. д. Справа ў тым, што быў створаны нейкі міжсэкцыйны камітэт, які з сябе выдзяліў пэўных і тытулаваных асоб, каб парушыць гэту справу наперад, і вось гэтыя выбраныя напісалі ад свайго імя паперу да паліцыі аб дазволе, але паліцыя па чыста фармальным прычынам, бо такі камітэт быў не зарэгістраваны і наагул бясправны, адмовіла ў дазволе і сказала, што гэта трэба рабіць праз міністэрства. І вось тытулованыя асобы толькі 25 сакавіка дадумаліся спрабаваць шчасьця ў міністэрстве, але дзеля таго, што у гэты дзень у міністэрстве ня прыймаюць, гэты „рашучы" крок ім ня ўдаўся. Так што прывітальныя тэлеграмы чыталіся тымі, на чыё імя былі прысланы.

Сумны факт, якога абыйсьці нельга. Адказнасьць за гэта мусіць нясьці міжсэкцыйны камітэт прад беларускім грамадзянствам.

Цяпер паўстае пытаньне: — Ці гэта тытулованымі асобамі зроблена па свайму нязнаньню арганізацыйнаму, ці звычайная правакацыя.

*Студэнт.*

Прага, 26 сакавіка 1929 г.

# Карэспандэнцыі

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

(в. в. Юраўшчаны і Абенькаўшчына, Беніцкай воласьці).

Прыглядзеўшыся да нацыянальнай сьведамасьці нашых вёсак, мы можам адзначыць, што яна значна ўзрастае. Беларуская кніжкі

---

вайка ў яго гутарцы і чытаньні нічога ня чуў аб сялянах, ні аб работніцах.

— Як-жа гэта—сказаў ён панічыку, калі той кончыў чытаць—як-жа гэта у вас няма нічога для жанчыны! Ну, добра, я запішуся, а жонка мая што будзе рабіць?—запытаўся Налівайка.

— І жонка запішацца.

— Дык-жа ёй няма чаго запісвацца, бо для яе тутака нічога няма—ўсё сялянам і работнікам, а іх жонкам хвіга! — сказаў узбуджаны Налівайка,

— Дык-жа тое, што будзе сялянам і работнікам, будзе іх жонкам—пробаваў тлумачыць панічык Радыкальнай Сялянскай партыі. Але Налівайка ня слухаў і скіраваўся да дзьвярэй, сказаўшы.

— Не, паночку, ня поўная партыя... Бывайце!

Налівайка хадзіў яшчэ і ў Беларускую Хрысьціянскую Дэмократыю, і ў Дэмократычнае Аб'яднаньне Праваслаўных Беларусаў і ў Беларускую Нацыянальную Партыю—але ўсюды было тое самае, што і ў сялянскіх партыях. Усюды ён бачыў то панічоў то паноў у манішках, прыгожа адзетых. Усюды яму гаварылі, што ёсьць у іх партыях і чыталі праграмы. Налівайка-ж, выслухаўшы панічоў і паноў. усюды гаварыў:

— Ня поўная партыя... без жанчын.

Калі ў Дэмократычным Аб'яднаньні праваслаўных Беларусаў Налівайку сказалі, што гэта самая апошняя партыя і больш няма, дык Налівайка аж вочы вытарашчыў.

— Як, апошняя?—кажа—а меншыя?

— Меншыя?—іранічна паглядзеў на яго пан Дэмократычнага Аб'яднаньня—меншыя, маюць толькі па адным чалавеку.

— Як па адным?—зьдзівіўся Налівайка.

— А так, што ў меншых партыях толькі той, хто яе выдумаў, а больш нікога няма—тлумачыў пан.

— А ня чуваць часамі, мо' хто зьбіраецца выдумаць вялікую партыю, ну як вашая, каб тамака было што-небудзь жанчынам?—пытаўся Налівайка.

— Яшчэ ня чуваць—адказаў пан.

— Ну дык я пачакаю, можа хто выдумае, тады запішуся...

Так Налівайка і не запісаўся ў партыю.
Так і астаўся ня поўным беларусам:

*Улад—Ініцкі.*

ці газэта, якая перад сучаснасьцяй была вельмі рэдкім зьявішчам цяпер вельмі часта, чытаецца і слухаецца на вёсцы з вялікім зацікаўленьнем. Хаця-ж праўда, ёсьць каля нас трохі палякаў, мусіць навет болей, як адзін, але яны нам нічога ня шкодзяць. Часам, між сабою яны навет ладзяць спэктаклі. На адным з гэткіх спэктакляў і я „меў гонар“ быць неяк летам у фальв. Дзедаўшчыне (гэтай воласьці), але гэты спэктакль быў наладжаны няўдала, зусім ня так, як гэта належыць быць наладжанаму спэтаклю, як напрыклад у Беніцы.

Нажаль, у нашай вёсцы знаходзіцца трошка несьвядомасьці. Найбольш характэрным гэта зьяўляецца тое, што некаторыя каталікі называюць сябе палякамі, хоць па польску і гаварыць ня ўмеюць, але гэтакія у нас на пальцах лічаныя і ёсьць надзея, што яны хутка асьвядомяцца і ня будуць адгароджвацца ад агульнай сям'і Беларускага Народу.

Як ужо вядома, у в. Юраўшчыне істнуе Аддзел Бел. Т-ва „Прасьветы“ сябры якога нядаўна сабраўшыся на паседжаньне ў в. Ленькаўшчыне абгаварывалі рад спраў, належных да спосабу барацьбы з цемрай і да правядзеньня ў жыцьцё сваіх заданьняў. Сэкрэтаром аддзелу быў прачытаны рэфарат: „Кароткі агляд гісторыі Беларусі“, і многа чаго абгаворана ў справе патрэбнасьці арганізаваньня сьведамасьці у вёсцы, што такое „Прасьвета“ і інш. Пасьля зроблены быў старшынёй аддзелу даклад аб папярэдняй і сучаснай працы Аддзелу, справы драматычнай літэратурнай сэкцыі, грашовыя справы і інш.і

Пасьля адбыліся выбары прэзыдыюму ў склад якога увайшлі П. Асіповіч—старшыня, Ю. Сяргеевіч—сэкрэтар, Максім Дзянеш—скарбнік, Сымон Рубан і Якуб Беланожка—сябры прэзыдыюму.

З усяго гэтага відаць, што і нашая быўшая дагэтуль цёмнай і глухой, мясцовасьць, прабуджаецца і з часам стане на шлях лепшай будучыні нароўні з іншымі ўжо сьвядомымі вёскамі нашай Бацькаўшчыны—Беларусі. Дык-жа ў добры час!

*Цецярук.*

## СЬЦЕРАЖЭЦЕСЯ АШУКАНКІ.

(Хажова каля Маладэчны).

Перад праваслаўнымі запускамі ў вёсцы Хажова, пав. Маладэчанскага, у хаце Аляксандра Акульскаго зьявілася сьвятая баба, каторая пачала сваю сьвятую дзейнасьць. Сьвятасьць яе ў тым, што па марозе ў 40 гр. ходзіць босая.

Народ пачаў верыць і прыяжджаў больш за сотню вёрст—былі праваслаўныя, каталікі і іншыя. Уваходзілі ў хату жагнаючыся і на каленях паўзьлі да яе, а сьвятая, седзячы на падушках, перажагнае кожнага і рае зельлі, але ад усіх хваробаў аднолькавае: 1 мерыца на асіну, 2—піць елку, пасьля якой тры дні будзе жывот ганяць, а вочы ў каго слабыя, дык воскам заліваць.

Назьбіраўшы торбу грошай і мех лёну з палатном—казала, што ахвяруе ўсё гэта на царкву, і ахвяравала: па 5 грошаў палажыла на 3 абразы. Былі людзі, што, паглядзеўшы на яе поўную торбу грошай, выходзілі зусім здаровыя.

Браты Беларусы! Ня верце розным ашуканцам, а лепш за тую залатоўку, што кідаеце на босых бабаў, выпішце сабе сваю беларускую газэту.

*Сайка.*

## З НАШАЙ ПОШТЫ.

(п. Беніца, пав. Маладэчна).

Ня ведаю ці вышэйшым паштовым уладам вядомы ўсе тыя парадкі, якія вядзе пан І. Конаповіч, кіраўнік паштовай агенцыі ў Беніцы, аб якім я хачу сказаць пару слоў.

З паўстаньнем у 1926 г. агенцыі „вырас“ і гэты кіраўнік, які адразу адзначыўся на сялянах — беларусах, не аддаючы газэтаў і застаўляючы іх гутарыць папольску. Праўда, былі рэчы брунднейшыя, якія ў свой час пераходзілі праз прэсу, і справа якога была у пракурора. Але сякім ці такім парадкам, гэту справу удалося схаваць пад сукно, якая і да гэтага часу там-жа. Можа гэта і дало повад да далейшых парадкаў Кононовіча. Газэтаў не даваў патрэбным падпісчыкам. Пошта ўрадуе „пад гумар“. І вось 5 III с. г. я бачыў такі факт: кіраўнік зап'янстваваўшы, дзяржаў пошту зачыненаю, і калі адамкнуў у гадз. 5, то толькі таго і шчасьця, бо самога ня было і пошта магла наразіцца на „дэфраўдацыю“. І калі толькі дачакаўшы у 6 з чымсьці, на кіраўніка (вядома п'янага), які нічога не рабіў апрача лаянкі словамі, якіх тут падаць немагу. Калі-ж адзін (вядомы беларус) зьвярнуўся з запатрэбаваньнем 3-х паштовак, кіраўнік накінуўся на яго з куламі і г. д.

Ня ведаю, ці гэта „полецэне“ дадзена для нашага паштара, ці сам дазволіў ім карыстацца. Гэта адзін з сотняў фактаў службы п. Кононовіча. На гэты раз пастаноўлена сьвядомымі адзінкамі зьвярнуцца да беларускіх паслоў, каб гэтага пана ад нас зусім узялі.

Пабачым, што скажуць захады паслоў і другіх адзінак.

Сьведка. *Ю. С.*



Рэд.-Выд. Т. Вернікоўскі. Літэрамі У. Знамяроўскага.

Друк. „POGOŃ-PAX“, Сьв.-Ігнатаўская в. 5.